Сёння: ЧОРНАЯ НОЧ | АВАНС ПАВЯТОВАЙ ВЁСКІ | ФАЛЬКЛОР?

# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 17 (478) | ГОД X | 25 КРАСАВІКА 1965 г. | ЦАНА 60 гр.

Язэп Рамашка.

## БЕЛАСТОЧЧЫНА У ЛЮСТЭРКУ

# ЧАС РАСПЛАТЫ

Старшыня прэзідыума ГРН у вёсцы Сідра, Сакольскага павета, таварыш Язэп Рамашка не затайваў свайго раздражнення.

— Вы сёння ўжо не першы, — сказаў пасля прывітання. — Былі тут журналісты з «Польскага Радыё». Толькі што паехалі.

— Прыйшоў час расплаты, дык не дзіва, што журналісты... Ці даўно выконваеце абавязкі гаспадара Сідраўскай грамады?

— Ад 1954 года.

— Значыць, на вашых вачах здзейсніліся амаль усе тутэйшыя перамены, пры вас радзілася ўсё, што новае ў вёсках Сідраўскай грамады.

— Нібы так.

— Дык чаго тут не было дзесяць год таму назад?

— Чаго не было? Не было чыгуначнай дарогі, якая стварыла цяпер выгодны даезд у Беласток і далей, не было брукаваных і асфальтаваных дарог, дык і не было ПКС-у, не было пастаяннага кіно, млына, радзільнага дома, пункта аховы здароўя з агульным і зубным лекарамі, не было прыгожай школы, якая каштавала звыш паўтара мільёна злотых, ніводная вёска, сярод гэтых шасці, якія цяпер карыстаюцца электраэнергіяй, тады яе не мела, не было на сялянскіх палях дзесяці гурткоўскіх трактараў і шматлікіх другіх машын. Гэта, вядома, яшчэ няпоўны пералік.

— Якім праблемам вы, як старшыня прэзідыума ГРН, прысвяцілі найбольш часу і ўвагі?

— Пытанне надта ж агульнае і цяжка адным «глытком» яго праглынуць. Перш за ўсё трэба ведаць, што на працягу мінулых дзесяці гадоў становішча грамадскай рады карэнна змянілася. Грамада сталася сапраўдным звяном улады, а не звычайным перакаэчыкам волі павета і другіх устаноў, як было раней. На працягу чатырох мінулых год грамадская рада збіралася 30 разоў на агульных сесіях. На кожнай сесіі прымаліся канкрэтныя пастановы, якія абавязвалі ўсіх грамадзян нашай грамады.

Звоніць тэлефон.

— Не, я сам дзяліць не буду, — рашуча гаворыць у тэлефонную трубку старшыня Рамашка. — Пшаніцы ўсім не хопіць. Трэба тады разгледзіць заявы калектыўна. Вось у нядзелю на сесіі будуць салтысы, будуць члены сельскагаспадарчай камісіі, саставім спісак, колькі каму і паводле спіску ў панядзелак прадавайце. Так што, да панядзелку, таварыш Кузьмічук!

Стукнула трубка аб скрынку тэлефона і старшыня зноў падняў вочы на мяне.

— Званіў старшыня ГС-у, — выясніў ён, сустрэўшы мой пытальны позірк. — Бачыце, капрызы пагоды нас, на жаль, таксама не абмінулі, асабліва надаела апошняя засуха. Каб

(Працяг на стар. 4)






СІДРА.

## Сёння ў гасціях у нас

# УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ

О вясна! Таполі! Свецс мілы!
Сонца німб! Аблокі! Сад! Рака!
Залатая падаплёка крыляў
Маладога звонкага шпака!
Вечар зацяпліў бярозак свечы.
Я адзін. Ты не памёрла — не.
Мой забыты, мой апошні светач,
Ты ў чужым акне, а не ў труне.
Як магла застацца ты ў кайданах?
Як магла адмовіцца пайсці
Да палян, дзе месяц закаханы
Песні «сноў» блакітныя ўзрасціў?
Пэўна я турму не здолеў тую
Гнеўную пагардай скалануць,
Дзе цябе цалуюць, як катуюць,
І ўладарна лашчаць, быццам б'юць.
Вей тваіх, плячэй тваіх пахілых
Болей не кране мая рука...
Над сусветам залатыя крылы
Маладога звонкага шпака.
Клічуць лебедзі ў начы вясеннія,
Кідаючы поўдзень салаўям,
І разліў шырокі, як натхненне,
Як любоў забытая мая.
І няма ў душы маёй праклёнаў,
І няма на веях цяжкіх слёз...
Заставайся ў клетцы залачонай, —
Ты сама абрала гэты лёс.
Над кахання нашага магілай,
Што загубіцца ў былых вяках,
Залатая падаплёка крыляў
Маладога, звонкага шпака.



Усё, што было, і ўсё, што часам сніцца
Забуду ў лесе, дзе як той капёж,
Як споры дожджык аблятае гліца,
І шум не парывісты, як дождж.
Зноў ружавеюць шышкі на ялінах,
Зноў восень на бярэзінках ляжыць...
Сястра мая бяздольная, асіна,
Апошняю лістотай не дрыжы.
Лістоты мала, але трэба верыць
Ў жыццё, ў каханне і ў вясны піры,
Пачуўшы нават мерны гук сякеры
У пасівелым восеньскім бары.




Хвалі ідуць за градою града.
Айсбергаў рэдкі паток,
Сіняя, быццам індзіга, вада,
Халодная, як апёк.
Цюляня не хоча цвёрдай зямлі,
Не хоча квяцістых палян.
Ільды яму замяняюць палі,
Радзіму — сівы акіян.
У пырсках бясконцых сініх валоў
Колам ходзіць малы —
З хвалі пад хвалю, на грэбень ізноў,
Ў сяйва сонца з імглы.
Акіян для малога пену пляце.
Той ляціць з гмаху на гмах:
Холад захоплены ў жываце,
Шчасце ў дзіцячых вачах.
І хочацца мне, як яму, да канца
Адчуваць апёкаў пажы,
Ў хвалях халодных даваць нырца.
Жыць! Жыць! Жыць!



Падымаюць жоўтыя галовы
Над вадой гарлачыкі ў Падкове, —
Старарэчышчы маёй ракі.
Вечар спаць рыхтуецца у дрэвах.
Тысячамі ходзяць па сугрэве
Мац'цсва — сін'я малькі.
Кветкі, памаліцеся, з прадонняў
Працягнуўшы жоўтыя далоні.
Бачыце, над плынямі Дняпра,
Поўнае пяшчотнай дабрынёю,
Сонца павісае над вадою:
Усіх гарлачыкаў старэйшы брат.
І, як той гарлачык над вірамі
Човен мой дрыжыць у цэнтры храма,
І бягуць палосы па лазе:
Светлыя адбіткі на зялёным.
Ў час, калі аддзячаць мне праклёнам —
Не ўпаду, згадаўшы гэты дзень

 

# Канец „вялікага боому"

Каньюнктурныя прадбачанні, якія цяпер з'яўляюцца ў друку, гавораць аб тым, што наглядаецца сур'ёзнае абмежаванне ўзросту прадукцыі амаль ва ўсіх краінах Заходняй Еўропы і ў Злучаных Штатах. Рэкламаваны яшчэ два гады назад «вялікі боом» аказаўся кароткім перыядам і хоць прынёс неспадзявана добрыя гаспадарчыя вынікі ў мінулым годзе, сёння ўжо, здаецца, ён мінае беспаваротна. Аб гэтым гавораць прадбачанні адносна ўзросту прадукцыі ў гэтым годзе ў краінах «супольнага рынку», у скандынаўскіх краінах і ў ЗША. Што датычыць, напрыклад, краін «супольнага рынку», дык, паводле аптымістычных прадбачанняў, узрост прадукцыі складзе тут ад 5% у ФРГ да 3% у Італіі і ў сярэднім будзе напалову меншы, чым у мінулым годзе. У Італіі практычна ўжо ў мінулым годзе далі сябе адчуць гаспадарчыя цяжкасці, і прадукцыя мела найніжэйшыя тэмпы ўзросту. Падобнае становішча наглядаецца і ў Вялікабрытаніі, якая займае трэцяе месца па прадукцыі прамысловых вырабаў ў капіталістычным свеце. Ад пачатку гэтага года ў Вялікабрытаніі і Японіі наглядаецца выразны спад прамысловай прадукцыі. У першым квартале г.г. зменшылася прадукцыя ў Нарвегіі і Швецыі.

Параўнаўча найлепшая каньюнктура ўтрымліваецца яшчэ ў Злучаных Штатах, краіне, дзе ў апошнія гады не было больш значных сур'ёзных інфляцыйных клопатаў. Здаецца, галоўнай прычынай амерыканскага «боому» было стварэнне два гады таму назад лепшых умоў для капіталістаў, якія ўкладаюць капітал у новыя прадпрыемствы ў сваёй краіне, а не вывозяць яго, а таксама (і гэта, здаецца, у першую чаргу) палітыка экспансіі ў Афрыцы і на Далёкім Усходзе. Няма, напрыклад, сумнення ў тым, што ў многіх галінах прамысловасці каньюнктуру падтрымліваюць урадавыя заказы, звязаныя з вайной у В'етнаме. Але тым не менш перспектывы ўзросту прадукцыі ў Злучаных Штатах у будучыні вельмі няпэўныя. Самі амерыканскія эканамісты прадказваюць, што ўжо пачынаючы ад другога паўгоддзя гэтага года і тут наступіць значнае абніжэнне тэмпаў узросту прадукцыі. Больш цынічныя палітыкі сцвярджаюць, што в'етнамская вайна вельмі малая, каб магла аказаць уплыў на даўжэйшае падтрыманне гаспадарчай каньюнктуры.

У такім становішчы цікава, якімі сродкамі ўрады капіталістычных краін хочуць стрымаць спад гаспадарчай актыўнасці. Вядома, вайна як спосаб падтрымаць каньюнктуру сур'ёзна не бярэцца пад увагу, бо невядома, да чаго яна давядзе. Таму адным з галоўных спосабаў перамагчы гаспадарчыя цяжкасці ўлады большасці капіталістычных краін лічаць інтэнсіфікацыю экспарту і заваяванне найлепшай канкурэнцыйнай пазіцыі ў міжнародным гандлі. У апошнія месяцы з'явілася несустраканая дагэтуль колькасць рознага роду групіровак, праграм і прапаноў для ўзмацнення гаспадарчай актыўнасці многіх капіталістычных краін у галіне экспарту.

Імкненне да павелічэння экспарту значна мацнейшае, чым вузы, накінутыя гэтым краінам рознымі канвенцыямі і паразуменнямі, абмяжоўваючымі міжнародны абмен. Адначасова тыя самыя краіны, як Італія, Францыя ці Вялікабрытанія стараюцца абмежаваць імпарт, што выклікае першыя непаразуменні ў капіталістычных «сем'ях».

Вядома, сёння цяжка яшчэ прадбачыць, да чаго прывядзе спад тэмпаў узросту прадукцыі ў высакаразвітых капіталістычных краінах. Адказ на гэта пытанне прынясуць бліжэйшыя месяцы. Аднак здаецца, што ўжо ў гэтым годзе мы будзем сведкамі або сур'ёзнага перагляду планаваных каньюнктур, або, што больш праўдападобна, пачатку новай інфляцыі і рэцэсіі, гэтым разам значна большай у сувязі з асабліва вострай у даны момант міжнароднай канкурэнцыяй. Пачаткам такой рэцэсіі з'яўляецца, як здаецца, абвешчаная загадзя забастоўка рабочых амерыканскай металургічнай прамысловасці.

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**




У Альхоўцы, Гайнаўскі павет, гурток БГКТ быў сарганізаваны ў 1959 г., яшчэ тагачасным старшынёй бельскага аддзела БГКТ — Кастусём Майсеняй. З таго часу адзінымі падзеямі ў жыцці гуртка былі толькі выбарчыя сходы, якія праводзілі штатныя працаўнікі таварыства. Заставаліся прапановы, а працы не было. Ішлі гады... Гурток не працаваў, а толькі існаваў. Прабудзіўся ён з доўгага сну і падумаў сур'ёзна аб дзейнасці ў пачатку 1963 года, у перыяд перадз'ездаўскай выбарчай кампаніі.

Нававыбранае праўленне ў складзе: Яўгень Панькоўскі, Юрка Скепка, Юрка Раманчук вырашыла, што трэба пачаць працу ў гуртку.

Летні перыяд выкарысталі на размовы з моладдзю. Не раз прыходзілася да позняй ночы пасля працы пераконваць нерашучых. Потым ужо засталося толькі звярнуцца да настаўнікаў за дапамогай у падрыхтоўцы пастановак. У пратаколе ад 20.XI.1963 г. такія ёсць словы настаўніцы Тамары Раманчук: «Нягледзячы на тое, што ў мяне двое малых дзяцей, пастараюся вам дапамагчы».

## ТАВАРЫСТВА -ГЭТА МЫ

А калі пачалася праца, перш за ўсё пастаноўлена, што члены БГКТ абавязкова тэрмінова будуць аплачваць членскія складчыны. З таго часу ўжо 3 гады падрад гурток у Альхоўцы адразу за цэлы год аплачвае складчыны ў першых яго месяцах, У пачатку 1964 г. калектыў 8 разоў выступаў з п'есамі: «Мікітаў лапаць» і «10 гектараў» у навакольных вёсках. Потым прымаў удзел у павятовых аглядах арганізаваных праз ГП БГКТ і атрымаў на іх узнагароды ў суме 1500 зл. Узнагарода была выкарыстана на выезд на Цэнтральныя Дажынкі ў Варшаву. Гэта яшчэ больш заахвоціла да працы. Ужо ў бягучым годзе калектыў даў 3 выступленні з п'есай «Суд». Рыхтуецца таксама прыняць удзел у аглядзе.

Але праца гуртка не агранічваецца выключна да мастацкай самадзейнасці. Праўленне гуртка БГКТ пастаралася сарганізаваць у 1963/64 г. гурток сельскагаспадарчых ведаў. Найбольш працы ў яго арганізацыю ўлажыў Сяргей Раманчук, які да таго яшчэ праводзіў заняткі на сельскагаспадарчым курсе. За добрую працу гэты гурток атрымаў бочку на гнаявую жыжку (гнаёўку), а Ю. Скепка, кіраўнік курсу, атрымаў як узнагароду плуг.

У 1965 г. гурток будзе праводзіць конкурс гадоўлі цялушак. Таксама з ініцыятывы гуртка Нараўскі ГС арганізаваў у Альхоўцы курс пячэння і варэння. Праўленне і пасобныя члены гуртка БГКТ часта кантактуюцца з праўленнем аддзела ў Гайнаўцы, звяртаюцца да яго за парадай ці дапамогай.

Аднак у працы не аглядаюцца толькі на дапамогу, яны ведаюць, што Таварыства — гэта яны, іх гурток.

На заканчэнне варта сказаць, што гурток працуе ў ненайлепшых умовах. Месцам іх працы з'яўляецца толькі школа.

**Мікола Лобач**
**Юрка Скепка**
Гайнаўскі павет

### Гурток БГКТ дзейнічае

Калі на ляўкоўскай сцэне выступалі ў адну з сакавіцкіх нядзель самадзейнікі з Ляшукоў, аб якіх дарэчы пісаў у сваім артыкуле Яўгень Рэент з Міхноўкі, члены БГКТ у Ляўкове пад кіраўніцтвам Анатоля Несцерука зрабілі першы зрух. Ахвотна з дапамогай прыйшлі мясцовыя настаўнікі, і праца пачала актыўна разгортвацца. Гуртkоўцы з Ляўкова Старога рыхтуюць да выступлення на велікодныя святы п'есу «Паўлінка» Янкі Купалы і з дзесятак рускіх і беларускіх песняў у выкананні хору і салістаў, а менавіта: Веры Рэент і Валі Саевіч, а ў дуэце выступаць будуць сёстры: Марыся і Люба Адамюк. У гуртку многа моладзі, а пераважна здольныя спевакі.

**Янка Цялушэцкі**
Ляўкова

## Размова з пісьманосцам

Аляксея Койлюка, пісьманосца пошты ў Старакорніне, спаткаў я на вясковай вуліцы. Якраз разносіў ён пісьмы і газеты. Была пятніца і ў яго торбе знаходзілася шмат экземпляраў нашага тыднёвіка «Ніва».

Ён мае 83 падпісчыкі «Нівы», пераважна на ўвесь квартал. І так — у Моры 16 падпісчыкаў, у Стараберазове 30 падпісчыкаў і 37 у Махнатым.

Другі старакорнінскі пісьманосец — Міхась Тамашук мае штосьці каля шасцідзесяці падпісчыкаў «Нівы». Да яго абслугі належаць апрача Старакорніна малыя вёскі Карыціскі і Ягаднікі.

(СЯ)

НАША АКЦЫЯ

## Кніжкі для Дома культуры імя Кастуся Каліноўскага ў Гарадку

Падарунак **Ларысы Геніюш** з г/п Зэльва, Гродненская вобл. Беларуская ССР:

«Туристские маршруты по Белоруссии»; А.А. Крывіцкі — «Наша родная мова»; Р. Барадулін — «Нагбом»; М. Гарэцкі — «Віленскія камунары»; Я Брыль — «Мой родны кут».

Падарунак **Янкі Геніюш** з г/п Зэльва, Гродненская вобл. Беларуская ССР:

Я. Колас — «Новая зямля», «Сымон Музыка»; Г. Гейнэ — «Выбраныя творы»; А. П. Смірноў — «Кастусь Каліноўскі ў паўстанні 1863 года», У. Бойка — «Маўклівая размова», «Беларускі эпас».



## на шырокім свеце

# „СПЕЦЫЯЛЬНАЯ ВАЙНА"

Калі праехаць міль сорак па шашы на паўднёвы-захад ад Ролі, сталіцы амерыканскага штата Паўночная Караліна, то направа ад дарогі, на схілах лясістых пагоркаў, убачыце маляўнічае мястэчка. Невялікія будынкі, пошта, банк, некалькі бараў. Звычайная асада званая паваеннаму — Форт-Брэг. І хаця гэта назва засталася ад тых часоў, калі праз аколіцу праходзіла граніца асвоеных каланістамі земляў вырваных індзейцам, тым не менш і цяпер Форт-Брэг ахутаны туманам ваеннай сакрэтнасці. На шашы, што ідзе ў мястэчка, прыезджых сустракаюць узмоцненыя патрулі ваеннай паліцыі. Направа ды налева ад дарогі слупкі з надпісамі: «Праход і праезд забаронены!», «Забароненая зона», «Стаянка забаронена». На рагатках мястэчка стаяць паласатыя будынкі вайсковых кантрольных пастоў, шлагбаумы, агарожа з калючага дроту.

Што ж уяўляе сабою так дакладна ахоўваемы Форт-Брэг?

...Над варотамі напісана: «Армія ЗША. Цэнтр спецыяльнай вайны». Гэта адна з навейшых устаноў амерыканскіх узброеных сіл — абучальны і навукова - даследчы цэнтр для падрыхтоўкі ідэалагічных і тэрарыстычных аперацый супроць другіх дзяржаў, супроць сацыялістычных краін. Тут ваенныя тэарэтыкі распрацоўваюць аперацыі «партызанскай вайны» ў тылу праціўніка і пацыфікацыйныя аперацыі супроць патрыятычных сіл ва ўласным тылу. У вялізных казармах цэнтра знаходзіцца некалькі тысяч адборных салдатаў і афіцэраў «войскаў спецыяльнага прызначэння». Гэта эліта амерыканскай арміі носіць асобную форму, асобную эмблему на рукаве. Многія з іх, гэтых салдатаў, не разумее па-англійску ні слоўца.

«Войскі спецыяльнага прызначэння паявіліся ў ЗША параўнаўча нядаўна. Яны ўяўляюць сабою часці і злучэнні парашутыстаў-дэсантнікаў, дакладна падрыхтаваных да працяглага прабывання за лініяй фронту, далёка ад сваіх баз.

У сучасны момант існуе сем злучэнняў гэтых войск спецыяльнага прызначэння — у суме 15 тысяч чалавек. У бліжэйшы час будуць яны павялічаны да 50 тысяч. Кожнае злучэнне прызначана да дзеянняў у акрэсленым раёне зямнога шара. Адпаведна да ўмоў данага раёна, падбіраецца і абучаецца асобны склад. Каб лепш падрыхтаваць дыверсантаў камандванне ЗША ўтварыла спецыяльныя палігоны, клімат якіх найбольш падобны да клімату данай зоны на Зямлі, дзе будзе дзейнічаць вызначанае злучэнне.

Адзін з такіх палігонаў — Форт-Карсон, у Скалістых гарах штата Каларада, на вышыні каля 4 тысяч метраў. Амерыканскае камандванне пераконана, што салдаты і афіцэры праходзяць тут абучэнне ў такіх жа ўмовах, «якія чакаюць іх на Камчатцы, Чукотцы альбо ў іншых месцах камуністычнай Поўначы». Усе, напрыклад, праз тыдзень жывуць і дзейнічаюць у гарах, на вятры, у глыбокіх снягах. Пасля заканчэння курса кожны здае экзамен: ён абавязаны самастойна прабрацца ў даліну, мінаць каравульныя пасты і патрулі, растаўленыя па дарогах і сцяжынках. Той, хто выканае заданне, у даліне атрымае гарачую яду і начлег у цёплым памяшканні. Хто напорацца на патруль, варочаецца назад у горы і прабіраецца ў даліну яшчэ раз — да таго часу паўтарае свой марш, пакуль не зробіць гэтага лоўка і незаўважна.

Для дзейнасці ў джунглях і трапічных багнах «спецыяльныя войскі» абучаюць у Форт-Гуліке, у зоне Панамскага канала, у абучальных цэнтрах на Фларыдзе і Джорджыі, і на спецыяльным палігоне на японскім востраве Акінава, які амерыканскія салдаты празвалі «30 тысяч акраў д'ябальскай зямлі». У час абучэння на палігоне салдат прывучваюць карміцца змеямі, насякомымі і дзікімі раслінамі, бясшумна прабірацца праз зараснікі і дрыгву, устанаўліваць пад дажджом бесперапынную радыёсувязь, карыстацца трафейным аружжам і аказваць медыцынскую дапамогу.

У «спецыяльных войсках» проста сталёвая дысцыпліна, шырыцца грубіянства і мардабой салдатаў. Салдаты — гэта, пераважна, эмігранты, людзі без радзімы і месца на зямлі. Яны маўчаць. Некаторыя, не могучы вытрымаць дысцыпліны дэзерціруюць. другія страляюць сабе ў лоб. Але большасць памалу стаецца бандытамі — спецыялістамі разбою. Паводле слоў Ферэнца Жофкі, былога салдата гэтых войск, «спецыялісты» — інструктары вучаць там 124 спосабы забойства. У Форт-Брэгу меў месца такі, напрыклад, выпадак: салдаты Джордж Йорк і Джэймс Латан сталі дэзерцірамі, уцяклі. Яны правялі «на волі» адзін тыдзень часу і ўжо паспелі абрабаваць і забіць сем чалавек.

«Спецыяльных войскаў» часта ўжываюць супроць патрыятычных сіл у краінах Лацінскай Амерыкі. Асабліва небяспечнымі з'яўляюцца яны маладой Кубінскай Рэспубліцы. Большасць кубінскіх контррэвалюцыянераў абучаецца на базах і палігонах гэтых «спецыяльных войскаў».

**(а-ся)**



 

# ГАВОРАЦЬ ФАТАГРАФІІ

## 1 УКЛАД БЕЛАРУСКАГА НАРОДА У РАЗГРОМ ФАШЫСЦКІХ ЗАХОПНІКАУ

**Тры доўгія гады над Беларуссю вісела чорная ноч фашысцкай акупацыі. Усюды, дзе ступала нага гітлераўскіх варвараў, заставаліся развaліны і пажарышчы, апусцелыя гарады і вёскі, акрываўленая і залітая кроўю нявінных людзей зямля.**



Ахвяры лагера смерці недалёка вёскі Азарычы Гомельскай вобласці.

СПРАВКА

О ЖЕРТВАХ НЕМЕЦКО-ФАШИСТСКИХ ЗЛОДЕЯНИЙ ПО БЕЛОРУССИИ

(По протоколам заседаний Чрезвычайной Государственной комиссии).

| №№ пп | Области | Уничтожено всего мирного гражданского населения | Убито, замучено военнопленных | Угнано в немецкое рабство |
|---|---|---|---|---|
| 1. | МИНСКАЯ | 317.515 | 101.590 | 29.815 |
| 2. | МОГИЛЕВСКАЯ | 71.602 | 59.134 | 21.436 |
| 3. | ВИТЕБСКАЯ | 151.421 | 92.891 | 68.434 |
| 4. | ГОМЕЛЬСКАЯ | 53.630 | 114.476 | 18.745 |
| 5. | БОБРУЙСКАЯ | 82.194 | 54.013 | 15.275 |
| 6. | ПОЛОЦКАЯ | 105.211 | 157.007 | 52.599 |
| 7. | ПОЛЕССКАЯ | 37.981 | 3.120 | 23.047 |
| 8. | ГРОДНЕНСКАЯ | 111.208 | 41.330 | 53.955 |
| 9. | БРЕСТСКАЯ | 159.526 | 38.858 | 30.008 |
| 10. | БАРАНОВИЧСКАЯ | 181.179 | 88.407 | 33.773 |
| 11. | ПИНСКАЯ | 95.385 | 24.613 | 30.861 |
| 12. | МОЛОДЕЧНЕНСКАЯ | 42.373 | 34.652 | 8.828 |
| | | 1.409.225 | 810.091 | 377.776 |

Всего уничтожено гражданского мирного населения и военнопленных — 2.219.316 человек

УПОЛНОМОЧЕННЫЙ ЧРЕЗВЫЧАЙНОЙ ГОСУДАРСТВЕННОЙ КОМИССИИ - (подпись) ТАБЕЕВ.

21/XII-1945 г.
г.Минск

Копія даведкі аб ахвярах нямецка-фашысцкіх злачынстваў па Беларусі.

# ЧОРНАЯ НОЧ



Так каты распраўляліся над жыхарамі Мінска.



Беларусы, расстраляныя гітлераўцамі ў канцлагеры гор. Барысава.



Беларусы павешаныя гітлераўцамі ў ваколіцы гор. Оршы (здымак узяты ў палоннага нямецкага салдата).



Ля трупа маці, замучанай фашыстамі.



Расстрэл беларусаў (здымак нямецкага салдата).

## З АПАВЯДАННЯЎ СТАРОГА САБАКІ ТАРЗАНА

# ЯК МЫ АРГАНІЗАВАЛІСЯ

Задумаў я, сябры, аднойчы сарганізаваць усю хатнюю жывёлу на нашым панадворку. Ці ж мы, падумаў я, горшыя за людзей? Сказана — зроблена. Вось мы і сабраліся ўсе ў апартаментах нашага парсюка «Перчыка», у хляве значыцца, на нараду.

Сябры! — пачаў я. Усе вы бачыце, што нашыя ўлады, гаспадар з гаспадыняй значыцца, робяць што толькі могуць, каб падняць свой, а разумеецца і наш, жыццёвы ўзровень. Мы ўсе, як свядомыя жыхары нашага панадворка, абавязаны памагаць ім у гэтым. А што мы робім? Паглядзіце самі. Мышэй, пацукоў развялося столькі, што жах. Не толькі ў кладоўку, але ў маю ўласную міску нават залазяць. А што робіць кот «Мурза»? Спіць, сябры, на ганку, або сёрбае малако з міскі. У найлепшым выпадку мурлыкае сабе нешта пад носам. Ці ж на тое яго выгадавалі? Ці ж на тое яго столькі часу вучылі? Тут «Мурза» ўскочыў на ногі, выгнуў хрыбет дугою і мяўкнуў на ўвесь голас: «Ты, — кажа, — Тарзан чаго да мяне прычапіўся? Тое, што я па прафесіі «мышалоў», не мае ніякага значэння. Па штату я лічуся нянькаю гаспадарскага ўнучка, Міхаські. Маім абавязкам спяваць яму калыханкі, каб заснуў хутчэй. А з гэтым я спраўляюся добра». Ты што, здурэў — гавару я. А хто ж мышэй лавіць будзе? «А мне якая справа, — кажа гэты наглец. — А ці ж кіраўнік нашае «Гасподы», — кажа, — цікавіцца сельскай гаспадаркай? А ён жа ж па прафесіі аграном і даўжэй за мяне вучыўся». Вось куды хітрэц загнуў. Справа бачыце ў тым, што наш Г.К.Х.Ж. (Грамадскі Калектыў Хатняй Жывёлы) арганізацыя маладая. Свайго вопыту мы яшчэ не маем і таму нам прыходзіцца асноўваць сваю работу на дасягненнях старэйшых сяброў — людзей значыцца. Загнуў нас хітры кот у тупік. Што ж рабіць засталося?

Прыйшлося нам, сябры, даверыць справу мышэй пеўню «Пеці». Яго дагэтуляшняй працаю, кукарэканнем значыцца, прыказалі заняцца мне. Штат стоража і маё месца ля буды заняла карова «Яргіня», а даваць малако забавязалі старога казла «Мітрафана». Адзін «Перчык» застаўся на старой пасадзе. Аднагалосна прынята рашэнне, што ён мае як найбольш есці, хутчэй сыцець і што тут многа гаварыць — рыхтавацца да пераробу на каўбасу. «Перчык», ведаеце, спачатку пачаў нават бунтавацца. «Вы што, — кажа, — здурэлі? Хочаце, каб я ўласную смерць прыспяшыў?» Тут голас узяў кот «Мурза». Ён у гэтакіх справах у нас найлепш асведомлены. Вядома! Усё каля вярхушкі, каля гаспадароў значыць, круціцца. «Ці ты «Перчык», — гаворыць ён, — ведаеш, якое шчасце на тваю долю выпала? Ці ты разумееш якая гэта чэсць дзеля агульнага дабра згінуць? Ты ж будзеш «героем» нашага панадворка. Табе ж абавязкова пасмяротна медаль прысвояць». Пачуўшы гэта «Яргіня» пакруціла рагатай галавою і зараўла са смеху. «Му-у-у, — кажа. — Зусім як у людзей у нас выходзіць. Замест таго, каб усім салідна за працу браць, усю адказнасць на аднаго «героя» скінулі. Дурня на медаль ловім». Да «Перчыка» гэта на шчасце ўжо не дайшло. Пачуўшы пра медаль, ён адразу ўсунуў лыч у карыта і самазадаволена зачаўкаў.

Ну і работа ў нас, браткі, пайшла!!

Певень, растапырыўшы крылы, за мышамі ганяецца. Рады старацца, аднак дагэтуль яшчэ ніводнай злавіць не змог. Я, падпарадкоўваючыся калектыву, сумленна стараюся кукарэкаць. Што б я аднак не рабіў, на плот нават бывае ўскочу і вочы па-птушынаму заплюшчваю, нічога ў мяне не выходзіць. Мест кукарэкаць — выю. І ўсё. А халера тая рагатая «Яргіня» замест таго, каб хату старажыць і старанна гаўкаць, усе кветкі ў гародчыку паабгрызала. З казла ж, самы ведаеце, колькі малака. Гэта аднак усё глупства. Галоўнае, што працуем мы сарганізавана. Зусім як людзі. Хоць часамі я, ведаеце, пачынаю сумнявацца. А мо' сапраўды гэтая арганізацыя працы павінна быць на іншых прынцыпах асновава? Адзін «Перчык» чуецца як рыба ў вадзе. Сыцее і сыцее — пад нож дазравае. Праўду кажучы, я яго нават шкадую. Глянуўшы на яго, проста дзіву даешся, дзеля чаго ж людзі гэтак да «карыта» пруцца.

Вррр гаў-гаў-гаў!

ЮРКА ГЕНІЮШ

# ПЛАТЫ

тановы купілі ад сялян нашай грамады столькі тавараў, што іх вартасць складае суму 10 мільёнаў злотых. **Чатыры гады пазней, гэта значыць у 1964 годзе** (а гэты год як ведаеце, быў неўраджайны!) **сяляне нашай грамады прадалі ўжо тавараў на амаль 14 з палавінай мільёнаў злотых.** Калі дакладна разгрызці гэтыя два лікі, выходзіць, што нашыя сяляне шмат пабагацелі.

— Скажам, што вы надалей засланяецеся гаспадаром Сідраўскай грамады. Чым тады заняліся б у першую чаргу?

Неадкладных спраў у нас многа. Перш за ўсё трэба навучыць сялян карыстацца хімікатамі пры знішчэнні пустазелля на палях і дарогах. Нашыя гаспадары адносяцца да гэтага, як гадоў таму пяць да штучных угнаенняў. Трэба праводзіць меліярацыю лугоў, штосьці рабіць з пакінутымі і занядбанымі гаспадаркамі, а гэтага «дабра» ў нас звыш 700 гектараў; далей будаваць дарогі і заахвочваць сялян да працы грамадскім чынам, павялічваць машынатрактарны парк гурткоў, абапіраючыся перш за ўсё на капітал дзяржаўнага фонду развіцця сельскай гаспадаркі. Гэта, паводле мяне, асноўныя...

Паўторна загрымеў тэлефон.

— Добра, ужо іду, — сказаў старшыня і адлажыўшы трубку, упрашальна паглядзеў на мяне.

— Разумею і даўжэй не затрымоўваю. Шчыра дзякую за гутарку і жадаю поспехаў у выбарах.

Гутарыў **В. РУДЧЫК**
Фота аўтара

# АВАНС ПАВЯТОВАЙ ВЁСКІ

Аванс — значыць паднясенне кагосьці, ці чагосьці да вышэйшай рангі. У народнай Польшчы — аванс не навіна. Авансавала мноства людзей, авансавалі цэлыя гарады і вёскі. З гэтых апошніх найбольш хіба авансавала былая вёска Дуброва. Бо ў вёсцы Дуброве ў 1956 годзе паўстала Павятовая рада нарадовая, і такім чынам вёска гэтая сталася цэнтрам павета — сядзібай павятовых улад. Да 7 студзеня 1965 года была гэта адзіная ў краіне «павятовая вёска». 1 студзеня Дуброва атрымала гарадскія правы і пачала лічыцца горадам. Штоправда жыхары Дубровы тлумачаць, што іх асада яшчэ ў XVIII стагоддзі лічылася горадам. У выніку аднак ваенных дзеянняў II сусветнай вайны Дуброва была цалкам знішчана і сталася звычайнай вёскай, якая нічым асаблівым не адрознівалася ад іншых суседніх вёсак. У 1945 годзе асада налічвала 565 жыхароў, а ў 1956 годзе — 763. У гэтым годзе, як мы ўжо сказалі, Дуброва стаецца цэнтрам Дуброўскага павета. Лік жыхароў асады хутка ўзрастае. У 1958 годзе налічвае яна ўжо 1550 асоб. Дуброва хутка пачынае разбудоўвацца. У рамах дзяржаўнага будаўніцтва паўстае тут 6 вялікіх гмахаў, апрача таго ў гадах 1960—1964 пабудавана 32 будынкі індывідуальнымі сродкамі гаспадароў.

Зараз у Дуброве існуе 15 рознага тыпу крамаў пачатковая і сярэдняя школа, а таксама сярэдняя школа для дарослых, існуе рэстаран, кавярня, Прадпрыемства радыётэхнічных і тэлевізійных паслуг і 17 пунктаў усялякіх іншых паслуг. На кожным кроку відаць тут яшчэ сужыццё нядаўняга мінулага, калі Дуброва была звычайнай вёскай і цяперашняга — калі Дуброва з'яўляецца павятовым горадам. Сведчыць аб гэтым могуць змешчаныя побач здымкі з Дубровы. (п)



На кожным кроку сустракаюцца з сабою: мінулае Дубровы — вёскі і сучаснае Дубровы — горада.



У Дуброве пакуль што толькі адзін масток праз рэчку. Гэта, як на павятовы горад, замала. І таму ў выпадку неабходнасці адны перапраўляюцца праз рэчку вось так, як бачыце. Небяспечна!



У кожны аўторак адбываецца на дуброўскім рынку ярмарка. Можна тут прадаць і купіць тое-сёе.



Але затое ў цэнтры горада нават вясною суха і прыгожа.

## Фальклор

# КАНАПЕЛЬКА

Тонка, велька канапелька,
Ой віно, да віно зелено!
Ешчэ танчэйша красна паненка,
Ой віно, да віно зелено!
Як на моры валнс біла,
Ой віно, да віно зелено!
Млода панна хусця мыла,
Ой віно, да віно зелено!
Хусця мыла, бель беліла,
Ой віно, да віно зелено!
Злоты персцян з рук зраніла,
Ой віно, да віно зелено!
Шчука-рыба уташчыла,
Ой віно, да віно зелено!
Ідзе панна край беражка,
Ой віно, да віно зелено!
Сустракае трох малойцаў,
Ой віно, да віно зелено!
Трох малойцаў рыбалоўцаў,
Ой віно, да віно зелено!
Эй вы, хлопцы, рыбалоўцы,
Ой віно, да віно зелено!
Вы закіньце шолкаў невад,
Ой віно, да віно зелено!
Вы спаймайце шчуку-рыбу,
Ой віно, да віно зелено!
Вы спаймайце, расплатайце,
Ой віно, да віно зелено!
Злоты персцян вы дастаньце,
Ой віно, да віно зелено!
Што ж ты, панна, за дар, дасі?
Ой віно, да віно зелено!
А аднаму талярамі,
Ой віно, да віно зелено!
А другому сто рублямі,
Ой віно, да віно зелено!
А трэйцяму сама млода,
Ой віно, да віно зелено!
Сама млода, як ягода,
Ой віно, да віно зелено!
Як ягодка баравая,
Ой віно, да віно зелено!
Як вішанька садавая,
Ой віно, да віно зелено!
Скрозь садочак чырванела,
Ой віно, да віно зелено!
Жэбысь панна шчэнсця мела,
Ой віно, да віно зелено!
У гэту вёску замуж вышла,
Ой віно, да віно зелено!
Бочку піва прыкаціла,
Ой віно, да віно зелено!
Нас малойцаў угасціла,
Ой віно, да віно зелено!
Копу яек на паўміску,
Ой віно, да віно зелено!
Каўбасою абкруціўшы,
Ой віно, да віно зелено!
Белым сырам прылажыўшы,
Ой віно, да віно зелено!
Божым дарам завяршыўшы,
Ой віно, да віно зелено!

**Далей складаліся пажаданні дамаўнікам «шчасліва свята святкаваць, а панні сапраўды выйсці замуж» і г.д.**

Запісаў **Кастусь Пятэльскі**
Крушыняны, Сакольскі павет

# ПЛЕНУМ

11 красавіка адбыўся пленум Павятовага праўлення Саюза сялянскай моладзі (ЗМВ) у Гайнаўцы. На парадку дня стаяла падсумаванне справаздачна-выбарчай акцыі ў гуртках ЗМВ, а таксама ўдзел арганізацыі ў выбарах у Сейм і рады нарадовыя.

У перыяд справаздачна - выбарчай акцыі ў Гайнаўскім павеце паўстала 3 новыя гурткі ЗМВ і арганізацыя павялічылася на звыш 180 новых членаў. На асаблівую ўвагу заслугоўвае ўдзел настаўнікаў у працы Гайнаўскага ЗМВ. Аж 17 настаўнікаў з'яўляецца старшынямі гурткоў, многія іншыя дапамагаюць гурткам у іх працы.

У сувязі з выбарамі ў Сейм і рады нарадовыя праўленне Гайнаўскага ЗМВ прадбачвае сустрэчы кандыдатаў у рады з членамі ЗМВ, шырэйшы чым дагэтуль удзел моладзі ў перадвыбарчых сходах, дапільнаванне, каб члены ЗМВ знайшліся на спісках Фронту адзінства народу і агітацыя за галасаваннем на гэтых кандыдатаў. (п)

# ГРАДОЧНА

За 20-гадовы перыяд народнай улады вёскі Гайнаўшчыны поўнасцю змянілі сваё аблічча. Вось, напрыклад, Градочна, якая знаходзіцца ў грамадзе Клейнікі. У мінулым людзі жылі вельмі бедна, таму што зямля там неўраджайная, а сенажаці падмоклыя, забагненыя. Накасіць там можна было з аднаго гектара 7—9 цэнтнераў сена. Мясцовае насельніцтва, шукаючы дадатковай крыніцы даходу, саматужным спосабам пляло «кельні» (драпкі) да жалезных вазоў. З прадукцыі кельняў Градочна была вядомая ва ўсёй аколіцы і жыхароў яе называлі кельняплёты. Традыцыя іх вырабу ўжо занікае, паколькі балоны выціснулі жалезныя вазы. Навокал вёскі былі багны і даезд да яе, асабліва на прадвесні і ў дажджлівую восень, быў амаль немагчымы. Да суседняй асады Нарва трэба было ехаць акружнай дарогай праз Качалы і Янова. Сена з багністых сенажацяў выносілі на насілках, часта па 700 метраў адлегласці. Існавала нават легенда, што ў гэтых багнах д'ябал страшыць, і што кожнага праезжага вечарам або ўначы абавязкова ён змыліць з дарогі, [illegible]біць так, каб чалавек заблудзіўся.

А як справа выглядае сёння? Паспяхова развіваецца сельскагаспадарчы гурток. На зменіяраваных сенажацях, якія даюць па 50 і больш цэнтнераў сена з гектара, косіць 9 конных касілак. Вуліца брукаваная, а даезд да вёскі добры, напалавіну скарочаны. Дзякуючы дапамозе дзяржавы праз заραслі і багны праведзена шаша - жвіроўка з Градочнай да Нарвы. Без ніякай дапамогі ўлад жыхары вёскі самі пабудавалі злеўню малака, да якой нават у зімовыя марозныя месяцы прыносяць гаспадары больш як 1000 літраў малака. І калі зважыць тое, што ў вёсцы толькі 30 гаспадароў, дык гэта вельмі многа малака прадаецца дзяржаве. Значыць меліярацыя і загаспадараванне сенажацяў прычыніліся да развіцця буйнай рагатай жывёлы. Апрача таго паасобныя сяляне рыхтуюць высакаякасную пашу ў сіласах, якіх у Градочнай налічваецца 14. На сельскагаспадарчую культуру вялікі ўплыў мае і тое, што гаспадары цікавяцца ведамі агратэхнікі і сарганізавалі двухгадовы лектарскі пункт сельскагаспадарчай адукацыі. Людзі ў вёсцы жывуць заможна і культурна. Градочна ўжо не «адрэзана» ад шырокага свету. Зніклі багны, і зараз ужо не страшыць там д'ябал.

**ВІТАЛІС НАЗАРУК**
Гайнаўка

